# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№5 (168)
травень 2016

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”


## У НУМАРЫ:

### SYMPA і “Будзьма!” прывезлі грузінскі досвед

Грамадская культурніцкая кампанія “Будзьма беларусамі” і Школа маладых менеджараў публічнага адміністравання SYMPA распачалі рэгіянальную праграму “Разам да справы” з мэтай развіцця грамадзянскай свядомасці і дзеяў.

Працяг на стар. 3

### У Таронта адзначылі юбілей фольк-гурта “Яваровы людзі”

28 траўня адбыўся заключны ў гэтым сезоне выпуск “Мова Нанова” ў Таронта, прысвечаны юбілею фольк-гурта “Яваровы людзі”. Гурт святкуе сваё 15-годдзе ў чэрвені.

Працяг на стар. 6

### У Вільні ўсталявана мемарыяльная шыльда ў гонар Казіміра Сваяка

На адзін беларускі знак, паболела ў Вільні.

Працяг на стар. 6

### “Ёсць Маладосць!” – новы праект ад “Будзьма!”

У новай рубрыцы “Ёсць Маладосць!” журналісты сайту budzma.by гутараць пра гэта з самымі рознымі прадстаўнікамі маладога пакалення беларусаў.

Працяг на стар. 4




# ФЕСТЫВАЛЬ ADNAK! — ГЕН БЕЛАРУСКАГА КРЭАТЫВУ. АБУДЗІМ ЯГО РАЗАМ!

Сёмы фестываль беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі aDNaK! стартаваў 5 мая. Да 10 чэрвеня адкрыты прыём прац ад удзельнікаў, а цырымонія ўзнагароджання пройдзе 30 чэрвеня ў Мінску.

Кожны год Фестываль традыцыйна прапаноўвае новую ідэю, звяртаючы ўвагу грамадскасці і прафесійнай супольнасці на актуальныя пытанні ў сферы камунікацыі і рэкламы. Ідэя сёлетняга Сёмага AD.NAK! — “aDNaK — ген беларускага крэатыву”.

Канцэпцыю Фестывалю

Працяг на стар. 2

**навіны ЗБС “Бацькаўшчына”**

# ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ КОНКУРСУ, ПРЫСВЕЧАНАГА 25-ГОДДЗЮ ЗГУРТАВАННЯ “БАЦЬКАЎШЧЫНА”

Міжнароднае журы падвяло вынікі конкурсу прац пра беларускае замежжа, які ладзіўся Згуртаваннем беларусаў свету “Бацькаўшчына” да 25-гадовага юбілею аб’яднання.

Пераможцамі сталі:

1-е месца – Вольга Мярчук. “Эміграцыя насельніцтва з Заходняй Беларусі ў розныя краіны свету ў 1921–1939 гг.”;

2-е месца – Аляксей Кухта. “Я не паляк, а беларус”: паўстанец 1863 г. Мікалай Віткоўскі, яго жыццёвы шлях і навуковыя дасягненні ў Сібіры”;

3-е месца – Эмануіл Іофе. “Арыгінальны талент вучонага, паэта і палітыка”.

Таксама журы адзначыла наступныя працы:

- Аляксандр Крук. “Мне сняцца сны аб Беларусі…” (Станаўленне і дзейнасць арганізацыі беларусаў Прыбайкалля);
- Канстацін Касяк. “Культур-

Працяг на стар. 2.

навіны "Будзьма!"

# ФЕСТЫВАЛЬ ADNAK! – ГЕН БЕЛАРУСКАГА КРЭАТЫВУ. АБУДЗІМ ЯГО РАЗАМ!

Працяг са старонкі 1.

тлумачыць каардынатар кампаніі "Будзьма беларусамі!", ініцыятара aDNaK!, Ніна Шыдлоўская: "Фестываль ужо стаў актуальнай і чаканай з'явай. Як пісалі СМІ 7 гадоў таму, правёўшы Першы фестываль, "Будзьма!" запусціла рухавік беларускамоўнай рэкламы. Цягам гэтых гадоў мы імкнуліся акцэнтаваць увагу на розных момантах: і агулам вызначыць становішча беларускамоўнай рэкламы, і даць штуршок у развіцці рэкламна-камунікацыйнага рынку, і замацаваць беларускую мову ў сферы бізнесу як паўнавартасны і адметны сродак камунікацыі. Летась мы надалі асаблівую ўвагу асобе самога рэкламіста. А сёлета вырашылі зноў вярнуць увагу рэкламістаў і рэкламадаўцаў да больш глыбокіх, падставовых рэчаў: сапраўдныя шэдэўры можна ствараць толькі на грунце тысячагадовых каштоўнасцяў, якія ўжо закладзеныя ў нашых генах".

За апошнія гады ў Мінску і рэгіёнах Беларусі стала заўважна болей беларускамоўных і беларускаарыентаваных праектаў, а таксама з'явілася пэўная колькасць камунікацыйных прадуктаў па-за ўласна беларускамоўным культурным полем, якія папулярызуюць абсалютна розныя рэчы і паслугі, выкарыстоўваючы візуальныя элементы нашай традыцыйнай культуры.

Спрадвечныя беларускія ўзоры цяпер можна сустрэць не толькі на ручніках або ў музеі, але і на вопратцы, аўто, апошняй мадэлі смартфона і нават на ўпакоўцы харчовых прадуктаў. Тэматыка аўтэнтыкі ўсё больш прываблівае беларускую моладзь. І бізнес, як звычайна, найперш рэагуе на попыт, усё ахвотней стварае рэкламны і камунікацыйны прадукт на падставе традыцыйных каштоўнасцяў. Аргкамітэт Фестывалю вітае гэтыя працэсы, але лічыць, што яны, з аднаго боку, павінныя ўцягваць у сваё кола ўсё новых рэкламістаў, спецыялістаў у сферы камунікацыі, культурніцкіх менеджараў і прадзюсараў, а з іншага — працягваць развіваць і паглыбляць прысутнасць беларускай культуры ў рэкламе, якая не павінная зводзіцца да пераносу традыцыйных арнаментаў на сучасныя вырабы. Такая цікавасць можа быць няўстойлівай. Таму, каб зрабіць прыкметы беларускасці натуральнымі, а нашую рэкламу — адметнай і арыгінальнай, варта іх пераасэнсоўваць і асучасніваць, выкарыстоўваючы ўсё багацце нашай больш чым тысячагадовай гісторыі і культуры.

Дзеля гэтага Фестываль і прапаноўвае аб'яднаць намаганні і дапамагчы беларускамоўнай рэкламе раскрыць свой ген крэатыўнасці!

Сёлета Аргкамітэт дае магчымасць усім неабыякавым стаць суарганізатарамі Фестывалю, а менавіта далучыцца да яго правядзення.

Заходзьце на сайт ulej.by і, знайшоўшы там "aDNaK! – ген беларускага крэатыву", спрычыніцеся да яго абуджэння!

Зрабіце свой унёсак у развіццё беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі.

Ад Аргкамітэта і партнёраў Фестывалю – спецыяльныя сувеніры, падарункі і магчымасць удзельнічаць у актыўнасцях падчас фестывальнага дня. Больш за тое – у вас з'яўляецца ўнікальны шанец узяць удзел у працы журы ці нават уручыць Гран-пры найлепшым стваральнікам беларускай рэкламы!

**Зробім фестываль aDNaK! разам!**

*На фота на 1-ай старонцы злева направа: старэйшы капірайтар AIDAPioneerBranding & Creative Company Аляксей Чарняўскі, кіраўнік групы па кіраванню брэндамі "Аліварыя" Людміла Стручэўская, кіраўнік аддзела карпаратыўных камунікацый кампаніі velcom Вячаслаў Смірноў, каардынатар кампаніі "Будзьма беларусамі!" Ніна Шыдлоўская, сустаршыня Аргкамітэта Фестывалю aDNaK! Сяргей Скараход.*

**budzma.by**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ КОНКУРСУ, ПРЫСВЕЧАНАГА 25-ГОДДЗЮ ЗГУРТАВАННЯ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

Працяг са старонкі 1

ніцкая дзейнасць Вацлава Ластоўскага ў Ковенскай Літве";

- Марына Яўсейчык. "Вобраз нацыянальнага героя ў перыёдыцы дыяспары".

Нагадаем, конкурс быў абвешчаны Згуртаваннем з нагоды юбілею дзеля прыцягнення ўвагі да спадчыны беларускай дыяспары, вывучэння і папулярызацыі яе дасягненняў як неад'емнай часткі нашай супольнай гісторыі і сучаснасці, нашай культуры.

Як адзначыла старшыня журы конкурсу, даследчыца эміграцыі Наталля Гардзіенка, паводле агульнага меркавання сябраў журы, пераважная большасць прац, дасланых на конкурс, – сапраўды вельмі цікавыя і вартыя публікацыі.

Урачыстае ўганараванне пераможцаў конкурсу адбудзецца ў чэрвені ў Мінску.

Пазнаёміцца з працамі-пераможцамі і іншымі найбольш цікавымі тэкстамі, дасланымі на конкурс, неўзабаве можна будзе на сайце "Бацькаўшчыны" zbsb.org у раздзеле "ЗБС "Бацькаўшчына" – "Да 25-годдзя Згуртавання".

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

## ВІНШАВАННІ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў чэрвені: Валянціна Голубева (Беларусь), Лявона Юрэвіча (ЗША), Тамару Плавінскую (Кыргызстан), Яўгена Вапу (Польшча), Валерыя Барташа (Украіна), Дзмітрыя Плакса (Швецыя), Ніну Савінаву (Эстонія). Жадаем шаноўным імянінікам добрага здароўя, творчага натхнення, поспехаў у працы, прыемных жыццёвых сюрпрызаў.

7 чэрвеня юбілей святкуе сябра Вялікай Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Ганна Вайняровіч-Мазур (Малдова). Сардэчна віншуем шаноўную спадарыню Ганну з юбілеем і жадаем моцнага здароўя, душэўнай цеплыні, дабрабыту, поспехаў ва ўсіх справах!

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**



навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# "ПЯЦІСОТГОДНАСЦЬ" ЗАВІТАЛА Ў ГОМЕЛЬ І ВІЦЕБСК

У красавіку Саюз беларускіх пісьменнікаў і Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў межах грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" абвясцілі кампанію "Пяцісотгоднасць", прысвечаную юбілею беларускага друку. Кампанія мае на мэце адпаведна значнасці падзеі годна сустрэць і адсвяткаваць 2017 год шэрагам мерапрыемстваў для шырокай публікі і сродкаў масавай інфармацыі.

Першай імпрэзай кампаніі "Пяцісотгоднасць" стала прэзентацыя новага перакладу Новага Запавету, якая адбылася 29 красавіка ў Мінску. Пра гэта мы пісалі ў папярэднім нумары бюлетэня (№167, красавік 2016 г.).

Кампанія працягваецца, цяпер эстафету пераняў Саюз беларускіх пісьменнікаў, арганізаваўшы літаратурнае турнэ ў Віцебск і Гомель.

17 траўня адбылася вялікая сустрэча са студэнтамі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны.

Вялікай яна стала не толькі праз прысутнасць на ёй добрай сотні студэнтаў-філолагаў, але і праз тое, што ў сустрэчы было ажно тры істотныя нагоды.

Першая нагода – выхад трэцяга нумара літаратурнага альманаха "Палац", што выдаецца Гомельскім абласным аддзяленнем СБП. Другой прычынай для сустрэчы стаў выхад у серыі "Кнігарня пісьменніка" кнігі "Пад сузор'ем сярпа і молата" празаіка Барыса Іванавіча Сачанкі, якому б сёлета споўнілася 80 гадоў. З грунтоўным расповедам пра асобу пісьменніка, яго творчасць і родныя мясціны – вёску Вялікі Бор Хойніцкага раёна, выступіў Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч.

У працяг гутаркі першы намеснік старшыні Алесь Пашкевіч расказаў пра новы, 81-ы, нумар часопіса "Дзеяслоў".




Настасся Лазебная, Алесь Пашкевіч, Усевалад Сцебурака

Ну а трэцяй нагодай была мультымедыйная прэзентацыя кампаніі "Пяцісотгоднасць", праведзеная паэтам Усеваладам Сцебуракам. Гледачы пачулі і згадалі цікавыя старонкі з гісторыі беларускага кнігадрукавання ды былі заахвочаныя да далейшага ўдзелу ў кампаніі святкавання 500-годдзя беларускай кнігі,

А 20 траўня ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя Пятра Машэрава прайшла імпрэза-прэзентацыя новага нумару літаратурнага альманаха "Ратуша".

Старшыня Віцебскага абласнога аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Настасся Лазебная распавяла пра новы нумар калектыўнага зборніка віцебскіх творцаў і пра сваю працу над ім.

У другой частцы сустрэчы аўдыторыі былі прапанаваныя лекцыя-прэзентацыя і віктарына, прысвечаныя 500-гадоваму юбілею беларускага друку.

**Паводле прэс-службы ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"**

навіны "Будзьма!"

# SYMPA І "БУДЗЬМА!" ПРЫВЕЗЛІ ГРУЗІНСКІ ДОСВЕД

Грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі" і Школа маладых менеджараў публічнага адміністравання SYMPA распачалі рэгіянальную праграму "Разам да справы" з мэтай развіцця грамадзянскай свядомасці і дзеяў.

Сярод першых крокаў праграмы – азнаямленчы візіт у Грузію пад назвай "Прынцыпы добрага кіравання ў сферы культуры і ўстойлівага развіцця: грузінскі досвед".

У візіце ўзялі ўдзел 20 беларусаў: грамадскія актывісты, прадстаўнікі СМІ, навучальных і навуковых установаў, бізнесу з усіх рэгіёнаў краіны, якія дбаюць пра ўстойлівае развіццё сваіх гарадоў і краіны агулам і лічаць, што грамадзяне павінныя быць натуральнымі і адказнымі ўдзельнікамі гэтага працэсу нароўні з мясцовымі ўладамі.

Насычаная праграма, якая доўжылася з 22 да 28 мая, дазволіла ўдзельнікам візіту пазнаёміцца з найбольш прагрэсіўным і актуальным для Беларусі досведам грузінскіх дзяржаўных і недзяржаўных арганізацый, а таксама атрымаць адказы на пытанні, як развіваецца інстытут мясцовага самакіравання, ступень гатоўнасці да рэформаў з боку дзяржавы і грамадства, ці ёсць складанасці ў фармаванні культурніцкай палітыкі, а таксама ў чым палягае ўзаемадзеянне дзяржавы і грамадскіх структур, празрыстасць дзяржаўных установаў і іх адкрытасць да супрацы.

Падчас візіту адбыліся сустрэчы з супрацоўнікамі Міністэрства рэгіянальнага развіцця і інфраструктуры, Міністэрства культуры і аховы помнікаў, Міжнароднага адукацыйнага цэнтра пры грузінскім урадзе, Міністэрства ўнутраных спраў, Дома юстыцыі, Свабоднага ўніверсітэта Тбілісі, Нацыянальнай адміністрацыі турызму. Адбыліся візіты беларускай дэлегацыі ў мэрыі і гарадскія саветы Тбілісі, Руставі і Мцхеты.




Падзяліліся сваім досведам і ідэямі і прадстаўнікі цэлага шэрагу недзяржаўных арганізацый: Асацыяцыі маладых юрыстаў, Міжнароднага цэнтра грамадзянскай культуры, Каўказскага інстытута міру, дэмакратыі і развіцця, Агенцтва грамадзянскага развіцця.

Грузінскія палітыкі, дзяржаўныя служачыя і эксперты вельмі адкрыта распавялі пра праблемы, якія паўсталі перад краінай за апошнія 25 гадоў, і пра тое, як удалося вырашыць тую ці іншую праблему.

Культурная праграма была важным дадаткам да праграмы афіцыйных сустрэч і дазволіла ўдзельнікам пазнаёміцца з рэалізацыяй культурнай палітыкі ў дзеянні.

**budzma.by**

навіны "Будзьма!"

# "ЁСЦЬ МАЛАДОСЦЬ!" – НОВЫ ПРАЕКТ АД "БУДЗЬМА!"

З часоў з'яўлення на сусветнай мапе Рэспублікі Беларусь прайшло 25 гадоў. За гэты час у незалежнай краіне паспела нарадзіцца і вырасці цэлае пакаленне беларусаў.

Якія яны насамрэч – прадстаўнікі пакалення незалежнай Беларусі? Як адчуваюць і пераасэнсоўваюць сённяшнія падзеі? Якія маюць праблемы і як іх пераадольваюць? Што думаюць пра сваю родную краіну і яе месца ў свеце? У новай рубрыцы "Ёсць Маладосць!" журналісты сайту budzma.by гутараць пра гэта з самымі рознымі прадстаўнікамі маладога пакалення беларусаў.

Ужо зараз у рубрыцы "Ёсць Маладосць!" можна прачытаць наступныя цікавыя тэксты:

Yёsць! Віка Фаміна: "Культурнае жыццё віруе не толькі ў Мінску";

Yёsць! Рэжысёр Мітрый Сямёнаў-Алейнікаў: "На ролю Вітаўта — Леанарда Ды Капрыа?";

Yёsць! Рэнат Валошын: "Без падтрымкі ўнікальная культура беларускіх цыганоў можа знікнуць".

**budzma.by**




навіны

# У ЛОНДАНЕ АДЗНАЧАЦЬ ЮБІЛЕЙ АРНОЛЬДА МАКМІЛІНА

У чэрвені спаўняецца 75 гадоў прафесару Арнольду Макміліну – аўтару першай англамоўнай гісторыі беларускай літаратуры і яе найбольш адметнаму знаўцу ў англамоўным свеце.

Святкаванне юбілею будзе адбывацца ў Лондане цягам трох дзён у alma mater даследчыка – Школе славянскіх і Усходне-Еўрапейскіх даследаванняў (SSEES) Універсітэцкага Каледжа Лондана (UCL).

Пачнецца яно канцэртам у чацвер 23 чэрвеня. Працягам стане сімпозіум 24-25 чэрвеня, у якім возьмуць удзел славісты з Вялікабрытаніі, Польшчы, ЗША, Нарвегіі і Канады, а таксама аўтары з Беларусі – Андрэй Хадановіч, Ганна Кісліцына, Віктар Марціновіч і Уладзімір Някляеў.

Беларускія аўтары таксама возьмуць удзел у дыскусіі ў лонданскім Free Word Centre, тэмай якой будзе сучасная беларуская літаратура і мова, значэнне Нобелеўскай прэміі Святланы Алексіевіч, перспектывы перакладаў, стан выдавецкай справы ў Беларусі і сацыяльна-палітычныя аспекты літаратурнай працы ў краіне.

**facebook.com/belbritain**

## ВІНШУЕМ АРНОЛЬДА МАКМІЛІНА!



21 чэрвеня спаўняецца 75 год аднаму з самых аўтарытэтных беларусістаў у свеце, прафесару Арнорльду Макміліну.

Арнольд Макмілін нарадзіўся ў 1941 годзе ў Ньюкасле (Вялікабрытанія). Скончыў Лонданскі універсітэт па спецыяльнасці "руская мова і літаратура". Выкладаў рускую мову і літаратуру ва універсітэтах Лондана і Ліверпуля. Ад 1987 года — прафесар рускай літаратуры Лонданскага ўніверсітэта.

У 1977 годзе пераклаў (разам з англійскай паэткай і перакладчыцай Верай Рыч) на англійскую мову паэму "Тарас на Парнасе".

У 1991 годзе пачаў чытаць курс лекцый "Уводзіны ў беларускую культуру: мова, літаратура, гісторыя".

Даследаваў навуковую дзейнасць Я. Карскага, Я. Чачота, творчасць Купалы, Коласа, М. Багдановіча, Зм. Бядулі, В.Быкава, Р.Барадуліна, У.Някляева і інш.

Арнольд Макмілін паўстагоддзя вывучае беларускую мову, літаратуру, культуру. Ён аўтар шэрагу публікацый і кніг пра беларускую літаратуру, у тым ліку кнігі "Напісанае ў халодным клімаце: беларуская літаратура ад 1970-х гадоў ды нашых дзён", якая выйшла ў Лондане ў 2010 годзе.

Управа Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" сардэчна віншуе спадара Арнольда з юбілеем і жадае выдатнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, дабрабыту, натхнення ў працы, здзяйснення ўсіх планаў і задумаў.

Шаноўны спадар Арнольд!

Вашая шматгадовая праца па папулярызацыі беларускай культуры ў свеце, вашая любоў да Беларусі выклікаюць шчырае захапленне і, упэўненыя, натхняюць многіх беларусаў. Вы прыклалі шмат намаганняў, каб у многіх краінах свету сталі больш ведаць пра нашую краіну і дасягненні нашых творцаў. Шчыра дзякуем за Вашую карпатлівую працу і спадзяемся, што Вашымі намаганнямі свет пабачыць яшчэ не адна беларусазнаўчая кніга!

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны “Будзьма!”

# КАНФЛІКТ ЦІ СУПРАЦА? ЧЫМ АБЯРНУЛАСЯ ЖАДАННЕ ПРАЦАВАЦЬ РАЗАМ

Нестандартнае, але станоўчае заканчэнне атрымала адкрытая дыскусія, якую 5 мая ладзіла кампанія “Будзьма беларусамі!” ў Гомелі.

На сёння ў горадзе склалася наступная сітуацыя: найбольш уплывовыя арганізацыі налічваюць некалькі пакаленняў, камунікацыя паміж якімі ўскладненая; культурныя і мастацкія здабыткі проста не знаёмыя сучасным гомельцам, а супрацоўніцтва з уладамі наогул выдае на жорсткае змаганне. Таму заяўленая тэма сустрэчы “Грамадскія супольнасці Гомеля: канфлікт ці супраца?” для Гомеля надзвычай вострая і актуальная.

Сустрэчу адкрыла рэгіянальны каардынатар кампаніі “Будзьма беларусамі!” Марыя Шарый. Яна прэзэнтавала гледачам праекты “Будзьмы”, а таксама агучыла важную інфармацыю пра новую кампанію “Разам да справы”, мэта якой не толькі асвета, але і матываванне актыўных, але часта разрозненых частак грамадства да супольных дзеянняў, да аб’яднання досведу на карысць агульнай справы.

Падчас мерапрыемства адзін з прадстаўнікоў найстарэйшай генерацыі нацыянальнага руху, сведка ўтварэння і першых крокаў ці не ўсіх гомельскіх суполак: “Талакі”, Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, творчых мастацкіх аб’яднанняў Андрусь Саладоўнікаў падрабязна распавёў пра дзейнасць гомельскіх грамадскіх арганізацый у 1990-я.

Пра “Талаку” сённяшнюю і пра пераемнасць пакаленняў у арганізацыі расказаў яе цяперашні старшыня Яўген Меркіс.

Яшчэ адна арганізацыя з даўнімі традыцыямі – Гомельская філія Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Аб тым, як ТБМ паўставаў з попелу, распавяла прадстаўніца найноўшай генерацыі ТБМ Марыя Булавінская.

Дзеля супольных мэт і агульных зацікаўленасцяў кожная новая генерацыя гомельскіх актыўных асоб самастойна выцягвае з нябыту досвед, напрацаваны папярэднімі пакаленнямі. Так што нібыта страчаныя напрацоўкі актыўна выкарыстоўваюцца сёння, хоць на першы погляд гэта не так заўважна.

Падчас сустрэчы свой спосаб вырашэння праблемы невядомасці мастацкіх здабыткаў гомельскіх творцаў прапанаваў карэспандэнт інфармацыйнага партала “Моцныя навіны” Дзмітры Новікаў. На яго думку, што заўгодна можна зрабіць славутым, калі вынесці гэта на шырокую публіку. І такая пляцоўка ў Гомелі ёсць: гэта інтэрнэт-партал “Моцных навінаў” са шматтысячнымі наведваннямі штодня, а таксама, суполка выдання ў сацыяльнай сетцы “Укантакце”, якая сёння налічвае больш за 77 тысяч удзельнікаў. Дзмітры Новікаў падкрэсліў, што гатовы прапанаваць гэтую пляцоўку для рэкламавання любой мастацкай ініцыятывы, якая ўзнікне ў Гомелі.

Далей дыскусія перайшла, бадай, на найскладанейшы від камунікацыі – на дыялог і далейшую супрацу самых розных грамадскіх ініцыятыў і органаў дзяржаўнага кіравання.

Пра свой досвед супрацы з дзяржаўнымі органамі распавялі архітэктар з Гомеля Сяргей Ляпін, і Уладзімір Булаўскі з Віцебска, які працаваў адначасова і ў бізнесе, і ў грамадскіх арганізацыях, і ў дзяржаўных структурах.

Калі напрыканцы сустрэчы зайшла гаворка аб найбольш розгаласнай грамадскай ініцыятыве, якая нядаўна ўзнікла ў Гомелі (кампаніі “Разам абаронім зялёныя вуліцы Гомеля”, распавядаў адзін з яе ўдзельнікаў Сяргей Ляпін), адбылася нечаканая, але вельмі станоўчая падзея: жыхарка аднаго з дамоў у цэнтры Гомеля, якая прыйшла на сустрэчу, прачытаўшы абвестку, звярнулася да Сяргея Ляпіна з просьбай дапамагчы выратаваць дрэвы і ў іх двары.

Сваю дапамогу адразу прапанавалі і Дзмітры Новікаў (як карэспандэнт “Моцных навінаў”), і Яўген Меркіс (як рэдактар Зялёнага партала Гомельшчыны), і адкрытая дыскусія аб тым, як працаваць разам, у той самы момант перайшла ад слоў да справы.

Мы мяркуем, што гэта і ёсць найлепшым яе вынікам.

**Паводле Югасі Каляды, budzma.by**

навіны

# МІНКУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ ЎЗНАГАРОДЗІЛА НІНУ БАРШЧЭЎСКУЮ

Прафесар Ніна Баршчэўская атрымала медаль за развіццё культуры Беларусі.

Ганаровую адзнаку прафесару Варшаўскага ўніверсітэта, шматгадоваму кіраўніку рэдакцыі Беларускай службы Польскага радыё прызначыла Міністэрства культуры Беларусі.

Сам медаль для беларускай дзяячкі з пашанай уручыў пасол Беларусі ў Польшчы Аляксандр Авяр’янаў падчас адкрыцця культурнай акцыі “Беларуская культура ў панараме”.




“Вельмі прыемна, што маю дзейнасць заўважылі ў беларускім Міністэрстве культуры, але найбольш важны сам факт, што ў Беларусі заўважаюць дзейнасць тых людзей, якія ў Польшчы пашыраюць беларускую культуру і навуку, – кажа прафесар Ніна Баршчэўская: – Гэта можа сведчыць пра нейкія зрухі ў самой Беларусі, у тым напрамку, што беларуская культура, літаратура, мова будуць займаць адпаведнае месца, якое ім належыць”.

**Беларускае Радыё Рацыя**

навіны

# У НЬЮ-ЁРКУ АДЗНАЧЫЛІ ДЗЕНЬ СВЯТОГА КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

У нядзелю, 15 траўня, у Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве ў Нью-Ерку адзначылі дзень Святога Кірылы Тураўскага. Святочную службу адслужыў епіскап Наваградскі і Паўночнаамерыканскі Святаслаў.

Пасля святочнай літургіі пра жыццё і дзейнасць аднаго з вялікіх айцоў Беларускай царквы распавяла Святлана Казачок.

З цікавым расповедам-успамінам пра гісторыю Кафедральнага Сабору БАПЦ выступіў старэйшына парафіі спадар Расціслаў Гарошка.

**Наша Ніва**

**навіны**

# У ТАРОНТА АДЗНАЧЫЛІ ЮБІЛЕЙ ФОЛЬК-ГУРТА “ЯВАРОВЫ ЛЮДЗІ”

28 траўня адбыўся заключны ў гэтым сезоне выпуск “Мова Нанова” ў Таронта, прысвечаны юбілею фольк-гурта “Яваровы людзі”. Гурт святкуе сваё 15-годдзе ў чэрвені.

Упершыню выступ будучага гурта “Яваровы людзі” адбыўся 24 чэрвеня 2001 года ў Кітчэнэры на мультыкультурным фестывалі. Там выступалі сябры Згуртавання Беларусаў Канады, якія пасля арганізаваліся ў гурт пад назвай “Яваровы людзі”. Ад пачатку і да сённяшняга дня калектывам кіруе Віялета Кавалёва.



“Яваровы людзі” атрымалі шмат віншаванняў з розных куткоў Канады і Беларусі, у тым ліку ад старшыні БНР Івонкі Сурвіллы.

Наведнікі “Мова Нанова” ў Таронта пачулі пра асноўныя вехі гурта “Яваровы людзі”, асабістыя гісторыі ўдзельнікаў, паглядзелі відэавыступы калектыву з розных гадоў і пачулі ў жывую песні розных часоў.

З нагоды юбілею фольк-гурт “Яваровы людзі” адзначаны Згуртаваннем беларусаў Канады ганаровай граматай “За важкі ўнёсак у захаванне і развіццё Беларускага грамадска-рэлігійнага цэнтру ў Таронта і беларускага арганізацыйнага і культурнага жыцця ў Канадзе”. Узнагароды атрымалі і тыя ўдзельнікі гурта, якія да гэтага часу нястомна і аддана ўкладаюць свой час, энергію і матэрыяльную дапамогу на захаванне і развіццё Беларускага цэнтру ў Таронта. Старшыня ЗБК уручыў асабістыя ганаровыя граматы Віялеце Кавалёвай, Вячаславу Кавалёву, Валянціне Шаўчэнка, Юрыю Шаўчэнка, Надзеі Дробінай, Вользе Манькоўскай і Філіпу Тананка.

**Ірына Тоўсцік**

***

Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” далучаецца да віншаванняў і выказвае падзяку спн. Віялеце Кавалёвай за шматгадовую працу як кіраўніка гурта, за яе цярпенне, любоў да роднай культуры, талент арганізаваць і зацікавіць людзей.

Жадаем усім удзельнікам гурта “Яваровы людзі” моцнага здароўя, творчага развіцця, каб беларускія спевы з Канады натхнялі усіх беларусаў свету. Шчыра спадзяемся, што “Яваровы людзі” яшчэ шмат-шмат гадоў будуць радаваць нас сваёй творчасцю.

**Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**

**Цікавінкі з гісторыі гурта:**

– Выдадзена 2 альбомы: “Іскарка-прыгаўка” і “Вырай”. Рыхтуюцца да выхаду альбомы з радзіннымі і застольнымі песнямі.

– За 15 гадоў у гурце бралі ўдзел больш за 100 чалавек.

– Спеўны залаты фонд “Яваровых людзей” налічвае каля 200 песень. Многія песні выкарыстаны ў фольк-мюзікле “То-то-то”, паказаным падчас 30-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, якая праходзіла ў Таронта ў 2012 годзе. Цяпер удзельнікі гурта працуюць над музычным фільмам, знятым па гэтым мюзікле.

– У калектыве па сённяшні дзень засталіся нязменнымі ўсяго тры ўдзельнікі гурта, якія спяваюць у гурце ад самага пачатку: Віялета Кавалёва, Валянціна Шаўчэнка і Надзея Дробіна. За 15 гадоў склад гурта ўвесь час змяняўся.

– “Яваровы людзі” запісалі 5 навагодніх відэапаштовак, якія кожны год імкліва разлятаюцца па ўсім свеце. За мінулы год відэавіншаванка набрала амаль 5 тысяч праглядаў за 2 дні.

**навіны**



# У ВІЛЬНІ ЎСТАЛЯВАНА МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ШЫЛЬДА Ў ГОНАР КАЗІМІРА СВАЯКА

На адзін беларускі знак, паболела ў Вільні. 22 траўня Таварыствам беларускай культуры ў Літве ўсталяваная мемарыяльная шыльда ў гонар святара і паэта Казіміра Сваяка.

Скульптар – Ігар Засімовіч. Мецэнат – Мікіта Забуга.

Шыльда ўсталявана на будынку дома па адрасе Дзіджоі, 17 (Didžioji g., 17).

Урачыстае адкрыццё мемарыяльнай шыльды адбудзецца ў Вільні 19 чэрвеня а 12.00 з набажэнства ў касцёле св. Барталамея.

**westki.info/tbk**

**навіны**

# НЕЗАЛЕЖНЫЯ ВЫДАВЕЦТВЫ ПРЭЗЭНТАВАЛІ Ў ВАРШАВЕ “БЕЛАРУСКУЮ ЛІТАРАТУРУ З ЖАНОЧЫМ ТВАРАМ”

19–22 траўня ў Варшаве прайшоў штогадовы кніжны кірмаш — адна з самых буйных кніжных імпрэз у Цэнтральна-Усходняй Еўропе.

Беларусь, як і летась, была прадстаўлена кніжным праектам “Books from Belarus”, у які ўваходзяць пяць незалежных выдавецтваў: “Архэ”, “Галіяфы”, “Кнігазбор”, “Логвінаў” і “Янушкевіч”.

Беларускі стэнд сёлета прадставіў праграму “Жаночы твар у беларускай літаратуры”. Асноўнымі гераінямі стэнду сталі Валянціна Аксак, Святлана Алексіевіч, Алена Брава, Наста Кудасава, Марыя Роўда і Таццяна Скарынкіна.

Як распавяла Свабодзе аўтарка канцэпцыі паэтка Алена Казлова, жаночая тэматыка была лагічнай і натуральнай — пасля атрымання Святланай Алексіевіч Нобелеўскай прэміі з’явілася нагода шырока расказаць і пра іншых жанчын у беларускай літаратуры.

Апроч кніг шасці аўтарак, на кірмашы былі і іншыя беларускія выданні — усе беларускія выдавецтвы, якія бралі ўдзел у імпрэзе, прэзентавалі па пяць самых цікавых выданняў.

**Паводле Радыё “Свабода”**

гутарка

# БАГДАН АНДРУСІШЫН: “АПОШНІЯ ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ АДНОЙ НАГОЙ ЖЫВУ Ў ЕЎРОПЕ, ДРУГОЙ – У АМЕРЫЦЫ”

Чым Данчыка расчаравала прафесія адваката?

Як працяглы адпачынак дапамог яму пераехаць у Еўропу?

Чаму ён не пабаяўся сесці на “Тытанік”?

На гэтыя і іншыя пытанні “Народнай Волі” адказаў кумір цэлага пакалення, беларускі спявак амерыканскага паходжання Данчык (сапраўднае імя Багдан Андрусішын), які ўпершыню прыехаў у Беларусь з канцэртамі ў далёкім 1989 годзе.



Багдан Андрусішын

Радыё“Свабода”

**– Думаю, вашы прыхільнікі дагэтуль не могуць зразумець: чаму вы з такім голасам не сталі прафесійным спеваком?**

– Пасля ўніверсітэта я вучыўся ў прыватнай акцёрскай школе. Аднойчы да нас прыйшла знакамітая актрыса Джэйн Фонда, уладальніца двух “Оскараў”. Запомніў яе фразу: “Калі вы не прачынаецеся і не ідзяце спаць з думкай, як стаць зоркай, кідайце гэтую прафесію”. Фонда была дачкой Генры Фонда, вялікага галівудскага акцёра, таксама ўладальніка “Оскара”. Яна казала, што мела тое, чаго не маюць іншыя (знаёмствы з прадзюсарамі, рэжысёрамі). Але нават ёй было вельмі цяжка прабіцца.

Тое самае з музыкай. Я вельмі любіў спяваць, але для самога сябе. Мне не было патрэбна прызнанне. З іншага боку, я думаў: калі маеш Божы дар, трэба ім дзяліцца. Таму я даваў канцэрты. Але зрабіць спевы прафесіяй я не адважыўся. У шоу-бізнесе выбіваюцца адзінкі. У мяне не было прагі да сцэны. Я занадта практычны і патрабавальны да самога сябе. Ведаў, што мушу мець нейкую прафесію, з якой буду зарабляць сабе на хлеб.

**– Па адукацыі вы…**

– Журналіст. Калі мне было 20 гадоў, трэба было вызначацца з будучай прафесіяй. […] Я заўсёды ўмеў добра пісаць. Тады прадстаўнікі гэтай прафесіі яшчэ маглі добра зарабляць (цяпер кожны, хто мае фотаапарат, тэлефон і акаўнт у “Фэйсбуку”, з’яўляецца журналістам). Гэта была практычная прафесія, таму я падумаў, што мне будзе лёгка ў ёй. Да таго ж, журналістыка тады з’яўлялася моднай.

**– Але ж вы не пайшлі працаваць у газету або часопіс.**

– Тады я быў не гатовы працаваць журналістам. У Амерыцы трэба думаць пра дах над галавой. Ёсць дзве прафесіі, якія цябе забяспечаць: адвакат і доктар. Каб стаць прафесіяналам у абедзвюх, трэба шмат гадоў вучыцца. Я вырашыў стаць адвакатам, пачаў працаваць у фірме і адначасова наведваў курсы. Некалькі гадоў займаўся адміністрацыйнымі справамі і ўдосталь наглядзеўся на закуліссе. Напрыклад, нехта прыходзіць рабіць тэстамент. Я бяру “рыбу” – гатовы ўзор, куды ўстаўляецца патрэбная інфармацыя. Потым прыходзіць адвакат і выстаўляе рахунак на 500 долараў, хоць асабліва не ў курсе справы. Мне стала гэта нецікава. Зразумеў, што марную маладыя гады.

Таму я перайшоў у фінансавую кампанію, якая перакупляла даўгі. Сем-восем гадоў працаваў менеджарам аддзела кадраў. Праводзіў першаснае інтэрв’ю, пісаў у газеты тэксты аб’яў, што мы шукаем супрацоўнікаў.

**– Цікава, вашы калегі ведалі, што побач з імі працуе папулярны беларускі спявак?**

– Не. Не буду ж я сам пра сябе расказваць. Давялося “раскалоцца” толькі ў 1989 годзе. Я збіраўся ў Беларусь на месяц (мяне запрасіў Леанід Барткевіч, зорка “Песняроў”, я пазнаёміўся з ім у Амерыцы). Таму давялося прасіць адпачынак за ўласны кошт і тлумачыць, навошта ён патрэбны. Начальства паставілася з цікавасцю. З падарожжа прывёз ім фотаздымкі і выразкі з газет, якія потым віселі ў кампаніі на стэндах.

Шчыра прызнацца, я ехаў не на канцэрты, а каб сустрэцца з маім дзядулем, якога ніколі не бачыў. Яшчэ да вайны ён развёўся з бабуляй, трапіў у войска. А яна засталася на акупаванай тэрыторыі. Паколькі разам з другім мужам яна працавала ў арганізацыі “Беларуская народная самапомач” (была створана для дапамогі беларусам, пацярпелым ад вайны), у 1944-м яны эмігрыравалі. Разам з імі з’ехала і мая прабабуля, родная сястра Антона і Івана Луцкевічаў, а таксама мая 12-гадовая маці. [...] Наша сям’я трапіла ў Нямеччыну, адтуль у ЗША. А дзядуля застаўся, стварыў новую сям’ю. Зараз адна з маіх цётак жыве ў Беларусі, другая – у расійскім Іжэўску.

**– Цяпер імя Данчык асацыіруецца з Радыё Свабода. Як вы туды трапілі?**

– Мая фірма знаходзілася на Брадвеі, на 50-й вуліцы. А Радыё мела сваю сядзібу недалёка, на 57-й вуліцы. Начальнікам ньюёркскага бюро тады працаваў Ян Запруднік, стары сябра сям’і. Мая бабуля шмат гадоў працавала з ім на Свабодзе. Зрэшты, мы пазнаёміліся б з ім і так: беларуская эміграцыя была параўнальна невялікай, таму ўсе ведалі адзін аднаго.

Аднойчы мне патэлефанаваў Запруднік і запрасіў да сябе на абед. Я прыйшоў, хоць не ведаў, у чым справа. Высветлілася, што ён сыходзіць на пенсію і запрашае заняць яго месца. Гэтая прапанова перакуліла

Працяг на стар. 8.

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЧЭРВЕНЬ 2016 ГОДА

9 чэрвеня – 125 гадоў таму, у 1881-м, нарадзіўся Іван Луцкевіч (1881–1919), грамадска-палітычны дзеяч, археолаг, этнограф, публіцыст.

11 чэрвеня – 90 гадоў таму, у 1926-м, нарадзіўся Дзмітрый Сямёнаў (1926–1982), літаратар, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

12 чэрвеня – 105 гадоў таму, у 1911-м, нарадзіўся Мікола Панькоў (1911–1995), бібліяфіл, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

14 чэрвеня – 120 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Пётр Татарыновіч (1896–1978), святар, грамадска-культурны дзеяч, літаратар, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Італіі і Ватыкане.

15 чэрвеня – 15 гадоў таму, у 2001-м, памёр Валерый Навіцкі (да 1945 г. Валянцін Новік) (1920–2001), грамадска-культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Канадзе.

16 чэрвеня – 85 гадоў таму, у 1931-м, у Вільні з-за праследу польскімі ўладамі застрэліўся Францішак Рамейка (1881–1931), беларускі каталіцкі святар.

19 чэрвеня – 190 гадоў таму, у 1926-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты “Народная справа” (выдавалася да 27 лістапада 1926 г., выйшла 38 нумароў).

19 чэрвеня – 75 гадоў таму, у 1941-м, у Берліне беларускімі дзеячамі створаны Беларускі Нацыянальны Цэнтр — правобраз беларускага ўрада. Кіраўнік – Мікола Шчорс.

22 чэрвеня – 120 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Бранілаў Туронак (1896–1938), культурна-грамадскі дзеяч, публіцыст.

22 чэрвеня – 75 гадоў таму, у 1941-м, пачатак Вялікай Айчыннай вайны і нямецкай акупацыі.

23 чэрвеня – 70 гадоў таму, у 1946-м, у Рэгенсбургу (Баварыя, Нямеччына) заснавана Крывіцкае Навуковае таварыства імя Францыска Скарыны (старшыня Янка Станкевіч).

24 чэрвеня – 20 гадоў таму, у 1996-м, у Новай Мышы Баранавіцкага р-на пастаўлены помнік Яну Чачоту.

**in memoriam**

## АЛЕГ АБЛАЖЭЙ
**(1954-2016)**

18 траўня раптоўна памёр мастак, пісьменнік, грамадскі дзеяч Алег Аблажэй. Пра гэта паведаміў яго даўні сябар і паплечнік Хведар Нюнька.

"Меў шмат творчых планаў, задумак, радаваўся вясне, квітнеючай прыродзе… ды, на жаль, усё абарвалася. Але будуць жыць яго творы", – напісаў Хведар Якубавіч пра свайго сябра.

Алег Аблажэй нарадзіўся ў 6 траўня 1954 г. у вёсцы Лезнявічы Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут (1977), Вільнюскі дзяржаўны мастацкі інстытут (1985).

Працаваў мастацкім рэдактарам газеты "Рунь", мастацкім афарміцелем дзіцячага часопіса "Лола".

Займаўся жывапісам, акварэллю, ілюстраваў кнігі. У яго афармленні ў Беларусі выйшлі творы В. Жуковіча "Гуканне вясны", Д. Бічэль-Загнетавай "Гараднічанка", у Маскве — "Шведскія казкі" Э. Хэмінгуэя, "Сербская паэзія", у Вільні — "Казка пра Султана" і інш. У 1984–1986 у Літве выдадзена серыя канвертаў з партрэтамі літоўскіх дзеячаў, афармленая А. Аблажэем, а таксама серыя паштовак. Працы Алега Аблажэя неаднаразова выстаўляліся ў Літве, Польшчы, Германіі, Эстоніі, Латвіі, Беларусі.

Быў сябрам рады Таварыства беларускай культуры ў Літве і суполкі беларусаў-мастакоў Балтыі "Маю гонар". Літаральна пару месяцаў таму падчас святкавання Дня Волі ў Вільні Хведар Нюнька перадаў Алегу Аблажэю паўнамоцтвы дырэктара культурнага цэнтра Якуба Коласа ў Вільні.

***

Управа Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім Алега Аблажэя. Смуткуем разам з вамі!



**навіны**

# БЕЛАРУСКАЯ ЦАРКВА ТРАПІЛА Ў ЛІК АБ'ЕКТАЎ І ПАДЗЕЙ ЛОНДАНСКАГА ФЕСТЫВАЛЮ АРХІТЭКТУРЫ

Беларуская царква, якая яшчэ толькі будуецца ў брытанскай сталіцы, трапіла ў лік аб'ектаў і падзей прэстыжнага Лонданскага фестывалю архітэктуры. Царква ўжо цяпер выклікае значную цікавасць: гэта будзе першы драўляны храм у Лондане за апошнія 350 гадоў. Яго стыль, натхнёны беларускімі цэрквамі часоў Вялікага Княства Літоўскага, незвычайны для брытанскай публікі.

Царква, названая ў гонар Кірылы Тураўскага і Усіх Святых Апекуноў Беларускага Народа, будзе таксама мемарыялам ахвярам Чарнобыльскай катастрофы.

У рамках Лонданскага фестывалю архітэктуры па выходных днях у чэрвені можна наведаць будаўнічую пляцоўку і адмыслова падрыхтаваную выставу, якая расказвае пра царкву і наступствы Чарнобыльскай трагедыі.

**facebook.com/belbritain**



**гутарка**

# БАГДАН АНДРУСІШЫН: "АПОШНІЯ ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ АДНОЙ НАГОЙ ЖЫВУ Ў ЕЎРОПЕ, ДРУГОЙ – У АМЕРЫЦЫ"

**Працяг са старонкі 7.**

маё жыццё.

У глыбіні душы я не думаў, што адкажу згодай. Ішоў 1992 год. Хадзілі чуткі, што Радыё Свабода хутка зачыняць. Нашто мне было сядаць на "Тытанік", у ньюёркскім аддзяленні якога працавала з дзясятак чалавек (смяецца)? У мінулым, калі на Свабодзе яшчэ працавала мая бабуля, офіс літаральна кішэў людзьмі.

Але сумоўе мусіла праходзіць у Мюнхене. Я падумаў: чаму б не з'ездзіць у Еўропу? Усё ж аплачана (смяецца). Там мне спадабалася. Але на сумоўі прапанавалі працу не ў Амерыцы (неўзабаве мясцовае бюро наогул закрылі), а ў Мюнхене. Давялося рабіць выбар. Я ніколі не думаў, што пакіну Нью-Ёрк, які вельмі любіў. Да таго ж, я не ведаў нямецкай мовы. Але ўсё ж такі прыняў рашэнне. Натуральна, было цяжка. [...] Я адпраўляў лісты за акіян. Тэлефанаваў рэдка, бо званкі каштавалі вельмі дорага.

**– Вашы прыхільнікі даўно не бачылі вас у Беларусі…**

– Згодны, апошні раз я быў у Беларусі вельмі даўно, больш за дзесяць гадоў таму. Але мая праца працягваецца 10 гадзін на дзень. Стамляюся. Ды апошнія чвэрць стагоддзя адной нагой жыву ў Еўропе, другой – у Амерыцы, дзе жыве мая старая хворая мама. Ёсць і свае побытавыя праблемы. Зрэшты, мая праца – і ёсць Беларусь, тое, што там адбываецца.

**Дзяніс Марціновіч, Народная Воля**

**Беларусы ў свеце**
№5 (168), травень 2016
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – Т. Печанко
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл. /факс (+375 17) 200-70-27